Мо праца крапатлівая мая
Не прападзе, на сонцы заясьнее,
Калі мінуць асеньнія вятры
І незалежнасьць вызваняць званіцы

*Максім Танк,*
*„Манах–летапісец“,*
*30.XII.1938 г.*

# Званар Незалежнасьці

У фондах аднаго з гарадзенскіх музэяў захоўваецца невялічкая кніжка ў сьціплай, але вельмі сымбалічнай вокладцы (чырвоная палоска на белай паперы) пад назвай *„Kastuś Kalinouski, „Mużyckaja Prauda“ i ideja niezaležnaści Biełarusi“*, якая ў параўнаньні зь іншымі прадметамі ў гэтым жа самым музэі мае „асаблівую прыкмету“. На тытульным лісьце кніжкі алоўкам па дыяганалі размашыста напісана: *„УНИЧТОЖИТЬ“*.

Гэтае адзінае слова выразна характарызуе стаўленьне камуністычных уладаў, што яшчэ зусім нядаўна панавалі на Беларусі, да таго беларускага культурнага здабытку, які быў нацыянальным ня толькі паводле формы, але і паводле зьместу, а таксама не пакідае ілюзіяў адносна пэрспэктыўных плянаў гэтых уладаў у дачыненьні да такога кшталту культуры. Але гісторыя ўсё ў рэшце рэшт расстаўляе на свае месцы. Сыстэма, якая шмат каму падавалася вечнай і непахіснай, у рэшце рэшт абрынулася, а друкаваная і пакінутая ў рукапісах спадчына сына беларускіх сялян–каталікоў з Ашмяншчыны Антаніны і Вінцэнта, які ўвайшоў у беларускую гісторыю як ксёндз Адам Станкевіч, пасьля дзесяцігодзьдзяў забаронаў, вынішчэньня і знаходжаньня ў спэцсховах архіваў і бібліятэк ізноў вяртаецца да свайго чытача.

* * *

Ксёндз Адам Станкевіч — яскравы прыклад ідэйнага беларускага адраджэнца першай паловы XX ст. Беларускі нацыянальны палетак у пачатку гэтага стагодзьдзя выглядаў амаль нявораным дзірваном сярод заўважна ўжо зарунелых суседзкіх дзялянак, таму асобныя прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі, усьвядомленыя і натхнёныя славутай прадмовай Францішка Багушэвіча да зборніка „Дудка беларуская“, з імпэтам браліся за нацыянальную працу, адчайна імкнучыся адрабіць занядбанае раней. Ім належала правесьці тытанічную працу паператварэньні традыцыйнага, патрыярхальнага сялянскага грамадзтва ў сучасную нацыю, і ўсё гэта — у вострай канкурэнцыі зь іншымі, больш моцнымі і пасьпяховымі нацыянальнымі праектамі. Працы было шмат, а працаўнікоў — мала. Дзеля таго любы беларускі нацыянальны дзеяч таго часу ня мог дазволіць сабе раскошы цалкам засяродзіцца на якім–небудзь адным накірунку дзейнасьці, а мусіў выяўляць свае ўласныя таленты ў самых розных галінах. Адам Станкевіч ня быў выключэньнем. Так, акрамя выкананьня сваіх непасрэдных сьвятарскіх абавязкаў, ён адзначыўся і на палітычнай глебе, зьяўляючыся адным са стваральнікаў і ідэолягаў хрысьціянска–дэмакратычнай плыні ў беларускім нацыянальным руху і нават выконваючы ў 1922—1927 гг. абавязкі дэпутата (пасла) вышэйшага заканадаўчага органу Польскай Рэспублікі — Сойму. Акрамя гэтага, Станкевіч выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі, займаўся

выдавецка–рэдактарскай дзейнасьцю, і, вядома, шмат пісаў сам, бо ў той час беларускім адраджэнцам сярод іншага належала амаль што з нуля стварыць такія падставовыя для паўнавартаснага існаваньня кожнага народу рэчы, як нацыянальную літаратуру і нацыянальную гістарычную канцэпцыю. Творчая дзейнасьць Адама Станкевіча ў асноўным і стане аб'ектам увагі аўтараў гэтай прадмовы, тым больш што зьвесткі пра жыцьцёвы шлях ксяндза даволі падрабязна выкладзены ягонымі паплечнікамі, аднадумцамі і проста прыхільнікамі ў адмысловым зборніку, выдадзеным у гонар 25–гадовага юбілею сьвятарскай дзейнасьці Адама Станкевіча і цалкам перадрукаваным у гэтым выданьні ў якасьці дадатку[1].

Усё напісанае ксяндзом Адамам за ягонае не такое ўжо і доўгае жыцьцё немагчыма было б зьмясьціць у межы аднаго выданьня проста фізычна. Ён зьяўляецца аўтарам вялікай колькасьці твораў па гісторыі Беларусі, дасьледаваньняў з галіны рэлігіязнаўства, мовазнаўчых працаў і рэцэнзіяў на кнігі беларускіх і замежных літаратараў, гісторыкаў ды філёзафаў, публіцыстычных артыкулаў і г. д. Дасьледчык выдавецкай дзейнасьці беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў, колішні кіраўнік беларускай друкарні імя Францішка Скарыны ў Вільні Язэп Найдзюк ацаніў колькасьць розных артыкулаў, апублікаваных Адамам Станкевічам на розных мовах у тагачаснай беларускай, польскай, літоўскай і ўкраінскай пэрыёдыцы, прыкладна ў дзьве тысячы[2].

Больш дакладную лічбу цяжка назваць і сёньня, улічваючы тое, што артыкулы, якія закраналі вострую, надзённую праблематыку, друкаваліся ў заходнебеларускіх газэтах 1920—1930–х гг., як правіла, бяз подпісу, або іхны аўтар хаваўся за псэўданімам. Але нават калі зусім ня браць пад увагу публікацыі, адносна аўтарства якіх ёсьць хоць бы найменшыя сумневы, усё роўна нават тыя публіцыстычныя, гістарычныя, рэлігійныя і літаратурна–крытычныя артыкулы, якія ксёндз А. Станкевіч падпісаў уласным імем або дакладна вядомымі нам сёньня псэўданімамі (напрыклад: Сакалінскі, Ігнат Папараць, Васіль Будзіловіч і інш.), склалі б у сукупнасьці аб'ёмны том. Нельга забывацца і пра значную эпісталярную спадчыну ксяндза. Але пры гэтым няма сумневу, што галоўнае значэньне ў творчасьці Станкевіча, у тым ліку і для яго самога, мелі тыя ягоныя працы, якія выдаваліся ў свой час асобнымі выданьнямі. Менавіта яны, дапоўненыя некаторымі іншымі матэрыяламі, якія характарызуюць Адама Станкевіча ў першую чаргу як грамадзка–палітычнага дзеяча, зьяўляюцца асноўным зьместам гэтага ёмістага тому, складзенага з твораў ксяндза–патрыёта. Хочацца спадзявацца, што гэтая кніга стане толькі першым, але не апошнім крокам у справе збору і абагульненьня ўсёй творчай спадчыны, якую ён нам пасьля сябе пакінуў.

Першую са сваіх кніг ксёндз Адам Станкевіч надрукаваў тады, калі яму было ўжо 34 гады. Да таго часу ён больш за паўтара дзесяцігодзьдзя браў удзел у нацыянальным руху, быў прызнаным аўтарытэтам у заходнебеларускім патрыятычным асяродку. Акрамя беларускай інтэлігенцыі, яго добра ведалі і беларускія сяляне на Віленшчыне, дзе ксёндз, пачынаючы з 1917 г., рэгулярна выступаў зь беларускімі казаньнямі, а ў 1922 г. пасьпяхова балятаваўся ў Сойм Польшчы. Непасрэдным штуршком да заангажаваньня ксяндза ў новую для яго справу — напісаньне навукова–папулярнай кніжкі, паслужыла значная для Беларусі юбілейная дата. У 1925 г. Беларускае навуковае таварыства ў Вільні

[1] На сёньняшні дзень маецца таксама пэўная колькасьць навукова–папулярных публікацыяў розных аўтараў, у якіх даволі падрабязна асьвятляюцца асноўныя этапы жыцьця ксяндза Адама Станкевіча. Асноўныя зь іх: Сідарэвіч, А. Ксёндз Адам Станкевіч і яго справа: Да 100–годзьдзя з дня нараджэньня // Хрысьціянская думка. 1992. № 1. С. 20—34; Луцкевіч, Л., Войцік, Г. Адам Станкевіч. Вільня, 2002; Конан, У. М. Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі. Мінск, 2003; Вашкевіч, А. Ксёндз Адам Станкевіч // Куфэрак Віленшчыны. 2005. №1 (10). С. 4—35.

[2] Цыпрыяновіч, С. [Найдзюк, Я.]. Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926—1940). Лёндан, 1991. С. 19.

арганізавала сьвяткаваньне 400–годзьдзя беларускага кнігадрукаваньня. У рамках гэтага сьвяткаваньня і зьявілася на сьвет першая кніга (ці, хутчэй, брашура) ксяндза Адама Станкевіча „Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі. 1525—1925“.

Гэтая праца не засталася незаўважанай у навуковых асяродках. На яе зьявілася некалькі рэцэнзіяў, у якіх адзначаліся як станоўчыя бакі выданьня, так і адмоўныя. Так, ацэнка працы з боку аднаго з будучых клясыкаў польскай гістарыяграфіі Генрыка Лаўмяньскага была выразна крытычнай. Лаўмяньскі, у прыватнасьці, адзначаў:

> Аўтар нават намагаецца абмаляваць эпоху, у якой жыў Скарына, што яму не асабліва ўдаецца. Пра культурны ўзровень Літоўскай Русі ў той час ён мае няправільнае ўяўленьне, гаворыць пра росквіт там, дзе панаваў поўны застой і заміраньне праяваў духоўнага жыцьця. Пра навуковы бок брашуры казаць няма чаго[3].

Больш пазытыўным было меркаваньне пра першую адносна буйную працу Станкевіча вядомага беларуска–расейскага навукоўца, тагачаснага рэктара БДУ Уладзімера Пічэты, аднаго са складальнікаў даволі грунтоўнага зборніка „400–лецьце беларускага друку“, які, надрукаваны ў 1926 годзе, фактычна паклаў пачатак беларускаму навуковаму скарыназнаўству. Пічэта адзначаў, што

> невялічкая памерам праца А. Станкевіча ёсьць вельмі ўдалая спроба навукова–папулярнае характарыстыкі дзейнасьці першага беларускага друкара. Апошняя разглядаецца ў адпаведнай культурна–гістарычнай абстаноўцы[4].

Найбольш цікавым Пічэта палічыў

> разьдзел працы А. Станкевіча, прысьвечаны высьвятленьню значэньня дзейнасьці Скарыны. Аўтар правільна зацьвярджае, што „Скарына сваімі кніжкамі далучаў Беларусь да агульнаэўрапейскай культуры“[5].

Праўда, рэцэнзент пры гэтым (як, дарэчы, і Г. Лаўмяньскі) падкрэсьліў, што праца Станкевіча не арыгінальная, паколькі грунтуецца галоўным чынам на ранейшых дасьледаваньнях І. Сьвянціцкага і П. Уладзімірава. Акрамя таго, ён палічыў патрэбным адзначыць, што „нельга назваць удалай“ спробу Станкевіча „выявіць сутнасьць скарынінскага сьветаразуменьня“.

---

[3] Ateneum Wileńskie. 1925/1926. R. III. S. 162. Сам Станкевіч, дарэчы, цалкам не пагаджаўся з такой суровай ацэнкай сваёй працы і больш чым праз дзесяць гадоў, у сакавіку 1936 г., выступаючы ў памяшканьні Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры з дакладам аб жыцьці і дзейнасьці Скарыны, палічыў патрэбным адказаць паважанаму польскаму гісторыку, сказаўшы наступнае: „Здаецца мне, што хутчэй мыляецца Лаўмяньскі. Увесь XVI век у беларускай культуры завецца залатой парой беларускай літаратуры не беспадстаўна. Завядзеньне ў Вялікім Княстве Літоўскім многіх друкарняў, выданьне аж трох Статутаў у беларускай мове, гэных сапраўды вялікіх падстаў праўнага жыцьця нашай мінуўшчыны, тлумачэньне Скарынам на беларускую мову кніг Сьвятога Пісаньня, іх друкаваньне ў Празе і ў Вільні, а пасьля перадрукоўваньне ў іншых мясцох і пашыраньне ў народзе — усё гэта хіба ж ёсьць доказам не застою духовага, аб якім кажа Лаўмяньскі, а наадварот — доказам, як на той час, даволі высокай ступені культуры нашага Краю агулам і культуры беларускага народу“ (*Станкевіч, А. Доктар Францішк Скарына і яго культурная праца: З нагоды 450–лецьця яго нараджэньня // Калосьсе. 1936. Кн. 2. С. 99—100*).

[4] Пічэта, У. Scoriniana (1776—1926) // Чатырохсотлецьце беларускага друку: 1525—1925. Менск, 1926. С. 319—320.

[5] Тамсама.

У чым абодва рэцэнзенты, нягледзячы на значную розьніцу ў ацэнках, усё ж сыходзіліся — гэта ў тым, што праца Станкевіча не зусім адпавядала крытэрам навуковай манаграфіі. У гэтым зь імі можна цалкам пагадзіцца, бо і сапраўды, пішучы і выдаючы гэту, ды і ўсе іншыя свае кнігі, аўтар сьвядома выступаў ня толькі і ня столькі ў ролі дасьледчыка беларускай гісторыі, але таксама ў ролі ідэоляга беларускага нацыянальнага руху. І ў першай, і ў другой якасьці ксёндз быў больш свабодны, чым ягоныя калегі, якія жылі ў той час у Савецкай Беларусі, хоць у 1920–я гг. магчымасьці для творчасьці ў многіх з тых людзей, якія працавалі тады на беларускую навуку ў БССР, таксама былі адносна неблагія. Дзякуючы гэтай апошняй акалічнасьці Станкевіч меў магчымасьць у сваіх уласных працах спасылацца на сьвежавыдадзеныя дасьледаваньні Вацлава Ластоўскага, Аляксандра Цьвікевіча, Усевалада Ігнатоўскага, Міколы Шчакаціхіна, адначасова разьвіваючы, дапрацоўваючы і асэнсоўваючы тое, што яны не пасьпелі ці проста не маглі сказаць уголас. Няма, напрыклад, сумневу, што такія кнігі, як „Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня“ ці „Беларускі хрысьціянскі рух“, проста не маглі быць выдадзеныя ў БССР нават у 1920–х гадах, ня кажучы ўжо пра жахлівыя 1930–я.

20–я гады мінулага стагодзьдзя былі важныя для разьвіцьця беларускай нацыянальнай ідэі сярод іншага таму, што ў той час быў фактычна сфармаваны асноўны каркас нацыянальнай канцэпцыі разуменьня айчыннай гісторыі, а таксама акрэсьлены своеасаблівы нацыянальны пантэон, у якім свае месца занялі найбольш выдатныя асобы зь вельмі далёкай і больш блізкай беларускай мінуўшчыны. Менавіта тады ў цэлым замацаваліся ацэнкі такіх постацяў беларускай гісторыі, як Францішак Скарына, Леў Сапега, Паўлюк Багрым, Кастусь Каліноўскі, якія ў агульных рысах, зь мінімальнымі зьменамі дайшлі і да сёньняшняга дня.

У разуменьні А. Станкевіча такія асобы, як Міхал Баброўскі, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч ці Браніслаў Эпімах–Шыпіла ўвасабляюць паступовы шлях адраджэньня беларускага народу пасьля стагодзьдзяў заняпаду, рэлігійнага і нацыянальнага прыгнёту. Ад М. Баброўскага, які захапляўся старабеларускімі рукапісамі і хацеў выратаваць уніяцтва, праз К. Каліноўскага, І. Грыняўіцкага, „гоманаўцаў“ і Ф. Багушэвіча, якія сьвядома ці падсьвядома сфармулявалі асноўныя пастуляты беларускага нацыянальнага адраджэньня, да Б. Эпімаха–Шыпілы, які ўсё сваё жыцьцё прысьвяціў таму, каб гэтыя пастуляты ўвасобіць у жыцьцё, фарміравалася, паводле А. Станкевіча, ідэалёгія беларускага нацыянальнага вызваленьня. Менавіта гэтыя людзі зьяўляюцца галоўнымі героямі навукова–папулярных кніжак ксяндза, тэксты якіх у дадзеным выданьні аб'ядназаныя ў разьдзеле „Беларусь самастойная“.

Асобна варта зьвярнуць увагу на тое, колькі Станкевіч зрабіў для заняцьця належнага месца ў нацыянальным патрыятычным пантэоне асобы Кастуся Каліноўскага. Ён, праўда, ня быў у гэтым першапачынальнікам. Яшчэ ў 1920–х гг. пра Каліноўскага шмат пісалася ў навуковых выданьнях і пэрыядычным друку БССР, ставіліся пра яго спэктаклі, а паэты–маладнякоўцы зрабілі ягоную асобу сымбалем народнага гневу і хуткай расправы над ненавіснай ім панскай Польшчай, якая паняволіла заходніх беларусаў. Аднак жа неўзабаве, ужо ў 1929—1931 гг., у ходзе гучных пагромаў беларускіх „нацдэмаў“ ранейшае ўзьвялічваньне асобы Кастуся Каліноўскага было ацэнена як „нацыяналістычная фальсіфікацыя беларускай гісторыі“. Пра правадыра паўстаньня 1863 г. належала, такім чынам, як мага хутчэй забыцца, бо патрыятычна настроеныя беларускія камсамольцы пачыналі ўспрымаць яго як сымбаль змаганьня ня толькі з польскімі панамі, але і з русіфікатарамі.

На фактычную забарону пазытыўнай ацэнкі асобы Кастуся Каліноўскага ў БССР ксёндз Станкевіч адгукнуўся ў Вільні дзьвюма бел–чырвона–белымі кніжкамі (на вокладцы адной была выява нацыянальнага сьцяга, а на другой — на белым фоне дыяганальная чырвоная паласа): ужо згаданымі вышэй „Да гісторыі беларускага палітычнага вызва-

леньня“ і „Кастусь Каліноўскі, „Мужыцкая праўда“ і ідэя незалежнасьці Беларусі“. Акрамя таго, беларускія хрысьціянскія дэмакраты ня без удзелу Станкевіча ў 1933 г. урачыста адзначылі юбілейныя даты, зьвязаныя з жыцьцём Каліноўскага.

Такая дзейнасьць ксяндза Станкевіча аказвала ўплыў на маральную атмасфэру ў заходнебеларускім грамадзтве, пра што сьведчыць хоць бы тое, што зь ёй мусілі лічыцца пастаянныя ідэйныя апанэнты беларускіх хадэкаў — заходнебеларускія камуністы. У сувязі з гэтым можна прыгадаць дыялёг паміж маладым паэтам–камуністам Максімам Танкам і сакратаром ЦК камсамолу Заходняй Беларусі Мікалаем Дворнікавым, які адбыўся на віленскім бруку летам 1936 г. і які М. Танк занатаваў у сваіх „Лістках календара“:

> Неспадзявана ён [Дворнікаў] запытаўся, што я ведаю пра Каліноўскага.
> — Пацікаўся больш гэтым героем, — параіў мне. — Трэба адбіць яго ў хадэкаў. Каліноўскі — ня іх сьвяты і дарма яны лезуць да яго ў сваякі[6].

Словы сябра–падпольшчыка выклікалі ў маладога паэта шчырае зьдзіўленьне: „Няўжо ж ён не чытаў разгромных артыкулаў пра паўстаньне 1863 году, пра Каліноўскага, якія друкаваліся ў Менску?“ Думаецца, што Дворнікаў гэтыя артыкулы ўсё ж чытаў і добра ведаў афіцыйную лінію КП(б)Б ў дачыненьні да асобы Кастуся Каліноўскага, паводле якой той лічыўся шляхецкім рэвалюцыянэрам і польскім нацыяналістам, які зусім ня быў абаронцам правоў сялянства. Аднак разуменьне бягучых патрэбаў рэвалюцыйнай барацьбы змушала заходнебеларускіх камуністаў хаця б часткова адыходзіць ад ідэалягічных штампаў, што накідаліся Менскам. Беларускаму народу, які змагаўся за свае правы ў польскай дзяржаве, для падтрыманьня нацыянальнага духу нельга было абысьціся без нацыянальных герояў–сымбаляў, і Каліноўскі на гэтую ролю выдатна падыходзіў.

Мікалай Дворнікаў загінуў у пачатку 1938 г. у гарах Гішпаніі, змагаючыся ў інтэрнацыянальных брыгадах, і там ён, паводле пазьнейшага сьведчаньня ягонага баявога паплечніка, літоўца Юозаса Грыгулявічуса, да апошніх дзён свайго жыцьця марыў стварыць (па аналёгіі з аналягічнай украінскай, якая насіла імя Тараса Шаўчэнкі) асобную беларускую нацыянальную роту імя аднаго з правадыроў паўстаньня 1863 г[7]. Дворнікаву гэта, праўда, зрабіць так і не ўдалося, але ягоная мара пазьней усё ж такі ўвасобілася ў жыцьцё на радзіме — у 1943 г. яшчэ адзін былы заходнебеларускі камсамолец, будучы вядомы пісьменьнік Аляксей Карпюк узначаліў партызанскі атрад імя Каліноўскага. Беларусь, такім чынам, трывала замацавала постаць Кастуся Каліноўскага ў сваім нацыянальным пантэоне, і сваю цаглінку ў гэтую справу паклаў сваімі працамі ксёндз Адам Станкевіч. Увогуле ж кожная ягоная праца мела на мэце прыводзіць чытача да адной агульнай высновы: *Беларусь мае права на незалежнасьць, павінна быць незалежнай і незалежнай будзе.*

Яшчэ адной характэрнай рысай твораў Станкевіча зьяўляецца тое, што аўтар не абмяжоўваецца выключна прадметам дасьледаваньня, а імкнецца шырока паказаць гістарычны фон, на якім разгортваюцца падзеі, канцэнтруе ўвагу на значэньні асобы таго або іншага свайго героя для айчыннай гісторыі і нярэдка, як ужо ў першай сваёй брашуры пра Скарыну, рамантызавана падкрэсьлівае, што

> народ наш за час сваёй поўнай самабытнасьці да XIII ст. і за час свайго такжа вольнага, але супольнага зь літоўцамі жыцьця ў XIII і ў XIV ст. сфарміраваўся ўжо ў выразную нацыю, а такжа набраў палітычнага і культурнага гарту[8].

---

[6] Танк, Максім. Лісткі календара. Мінск, 1970. С. 96—97.
[7] Драбінскі, Я. І. Ад Гомеля да Экстрэмадуры. Мінск, 1975. С. 129.
[8] Станкевіч, А. Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі. 1525—1925. Вільня, 1925. С. 18—19.

Ідэалягічнае, але не навуковае сьцьверджаньне пра існаваньне беларусаў, як і іншых сучасных Станкевічу народаў, у аформленым выглядзе яшчэ ў сярэднявеччы, утрымліваецца і ў большасьці іншых прац ксяндза.

Праўда, па меры творчай эвалюцыі Станкевіча ў ягоных дасьледаваньнях 1930–х гг. усё ж такі можна заўважыць некаторы адыход ксяндза ад уласьцівага палітыку, які пачаў пісаць гістарычныя працы, імкненьня праводзіць наўпроставыя аналёгіі паміж працэсамі і падзеямі, якія мелі месца ў розныя гістарычныя эпохі. Так, пішучы пра К.Каліноўскага як пра аднаго з пачынальнікаў уласна беларускага нацыянальнага руху, А. Станкевіч сьцьвярджае, што

> да праўды закрадаецца крыха і няпраўды, калі мы мадэрнізуем гісторыю і сваіх сапраўдных народных герояў з прад 70 гадоў змушаем гаварыць цяперашнім нашым беларускім палітычным языком і прыпісваем ім нашыя сучасныя ідэалы[9].

Але ж у цэлым рамантызаваны погляд на беларускую гісторыю, асабліва старажытную, ксёндз захаваў да канца жыцьця.

Далёка ня ўсе арыгінальныя меркаваньні і высновы, зробленыя ксяндзом Адамам Станкевічам у ягоных працах, у будучыні пацьвердзіліся, многае да сёньняшняга дня рэдагуецца і ўдакладняецца. Напрыклад, ня так даўно тэоляг–дамініканец з Кракава Марак Мілавіцкі пераканаўча даказаў, што Станкевіч, усьлед за іншым дасьледчыкам А. Янулайцісам, у сваёй брашуры „Магнушэўскі. Паўлюк Багрым. Баброўскі“ па–сутнасьці зьмяшаў у адно цэлае факты пра манаха–дамініканца Мацея Магнушэўскага і пробашча Крошынскай парафіі Войцеха Магнушэўскага. Сучасныя досьледы даюць магчымасьць адназначна сьцьвердзіць, што гэта былі дзьве розныя асобы[10]. Але пры гэтым трэба адзначыць, што і сам Станкевіч у сваёй брашуры прызнаваў супярэчнасьць падаваных ім зьвестак. Ён цалкам усьведамляў, што далёка ня ўсе ягоныя працы адпавядаюць усім крытэрам, каб лічыцца грунтоўнымі навуковымі манаграфіямі — на падрыхтоўку апошніх яму не хапала ні часу, ні сродкаў. Дарабіць тое, што ня зьдзейсьніў сам, ён спакойна давяраў беларускім гісторыкам будучых пакаленьняў, фармулюючы сваё творчае крэда вельмі проста і вычарпальна: „Словам, зрабіў я, што мог, няхай, хто можа, зробіць лепш“[11].

Нельга, аднак, у той жа час абмінуць таго факту, што, нягледзячы на свой перадусім папулярны характар, некаторыя творы А. Станкевіча ўтрымліваюць і цалкам арыгінальную на той час інфармацыю, засноўваюцца на аналізе першакрыніц. Вось толькі некалькі прыкладаў. Ксёндз Станкевіч першы сярод беларускіх дасьледчыкаў вывучаў судовую справу Кастуся Каліноўскага, адшукаў у польскіх архівах асобныя нумары „Мужыцкай праўды“, зрабіў цікавыя высновы адносна аўтарства некаторых ананімных „Гутарак“, напісаных напярэдадні паўстаньня 1863 г. На працягу даволі доўгага часу ён вёў перапіску з дасьледчыкам са Слонімшчыны Р. Кярсноўскім, дзякуючы чаму ў архіве ксяндза захавалася копія невядомага раней ліста Каліноўскага да аднаго з кіраўнікоў паўстаньня Баляслава

---

[9] Stankiewič, A. Kastuś Kalinoŭski, „Mużyckaja Prauda“ i ideja niezaležnaści Biełarusi. Wilnia, 1933. S. 9.

[10] Мілавіцкі, М. Дык хто ж такі Магнушэўскі? // Наша Ніва. 2005. 21 кастрычніка. С. 14.

[11] Stankiewič, A. Kastuś Kalinoŭski, „Mużyckaja Prauda“ i ideja niezaležnaści Biełarusi. S. 59. Надзея ж на тое, што маладыя беларускія гісторыкі „зробяць лепш“, была ў А. Станкевіча сапраўды немалая. Ужо ў 1930–х гг. нацыянальная беларуская гістарыяграфія папоўнілася працамі беларускіх гісторыкаў новага пакаленьня, якія часта мелі адпаведную прафэсійную падрыхтоўку: братоў Хведара і Міколы Ільяшэвічаў, Міколы Шкялёнка, Вацлава Папуцэвіча, Вітаўта Тумаша. Станкевіч глядзеў на іхнае прафэсійнае і нацыянальнае разьвіцьцё зь цікавасьцю і гонарам, адгукаўся на іх творчасьць прыхільнымі рэцэнзіямі, бо бачыў — у імклівым росьце кожнага ёсьць часьцінка і ягонай працы. Але, на жаль, многім зь перадваенных маладых заходнебеларускіх гісторыкаў была наканаваная жыцьцёвая дарога ня менш складаная і часта яшчэ карацейшая, чым іхнаму духоваму настаўніку.

Длускага[12]. У кнізе пра Ф. Багушэвіча Адам Станкевіч упершыню зьмясьціў рэдкі фотаздымак беларускага паэта, які пасьля сьмерці ксяндза трапіў у Гудзевіцкі музей і выкарыстоўваўся ў многіх пазьнейшых выданьнях. Брашуры А. Станкевіча, прысьвечаныя К. Каліноўскаму, Ф. Багушэвічу, Б. Эпімаху–Шыпілу, К. Сваяку, а таксама кніга „Беларускі хрысьціянскі рух" фактычна ператварыліся ў каштоўныя першакрыніцы.

Сярод прац Адама Станкевіча гістарычна–ідэалягічнага характару як паводле аб'ёму, так і паводле важнасьці вылучаецца кніга „Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня", напісаная ім у 1935 г. Значэньне гэтай кнігі для таго часу цяжка пераацаніць, асабліва калі ўлічыць тое, што ў пачатку 1930–х гг. у беларускай савецкай гістарычнай навуцы распрацоўка тэмаў, зьвязаных зь беларускім нацыянальна–вызвольным рухам, падпала пад татальную забарону, а тыя навукоўцы, якія займаліся гэтай тэматыкай, былі зьняволеныя, высланыя ці наагул фізычна зьнішчаныя. Дзеля гэтага праца ксяндза Станкевіча стала ці не адзінай у той час спробай асэнсаваць гісторыю беларускага руху з выразна нацыянальнага пункту гледжаньня. Станкевіч сярод іншага паспрабаваў зьмясьціць змаганьне беларусаў за сваё нацыянальнае вызваленьне ў агульнаэўрапейскі кантэкст (ад Вялікай Француская рэвалюцыі да пачатку ХХ ст.), а таксама адлюстраваць пераемнасьць паміж К. Каліноўскім, беларускімі народнікамі і дзейнасьцю заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Вяршыняй працэсу разьвіцьця беларускага вызвольнага руху ксёндз Адам лічыў 25 сакавіка 1918 г., адзначаючы, што акт абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі нясе беларускаму народу „не капіталістычны буржуазны грамадзкі лад", а „прадусім волю, каб ён сам сабе завёў такі грамадзкі лад, які ён захоча і які будзе ўважаць за найбольш для сябе карысны"[13].

Асобную частку творчай спадчыны ксяндза А. Станкевіча складаюць працы, прысьвечаныя гісторыі хрысьціянства ў Беларусі (яны склалі ў гэтым выданьні разьдзел „Беларусь хрысьціянская"). Займаючыся дасьледчыцкай дзейнасьцю ў гэтым напрамку, ксёндз працягваў шукаць у гісторыі шляхі вырашэньня найбольш важных пытаньняў ягонай сучаснасьці. У кнізе „Родная мова ў сьвятынях", выдадзенай ужо пасьля сумна вядомай забароны ў 1928 г. віленскага арцыбіскупа Р. Ялбжыкоўскага для каталікоў чытаць газэту *„Biełaruskuja Krynica"* і супрацоўнічаць з БХД, Адам Станкевіч, абапіраючыся на афіцыйныя дакумэнты Каталіцкага касьцёла, абгрунтоўваў права беларусаў на выкарыстаньне роднай мовы ў малітвах і богаслужэньні. Пры гэтым ён ня толькі апэляваў да кананічных тэкстаў, але і імкнуўся давесьці „бесперарыўнасьць ужываньня беларускай мовы ў сьвятынях, прадусім у Каталіцкім Касьцёле абодвух абрадаў на працягу ўсей нашай гісторыі"[14].

Гэтая праца Станкевіча зацікавіла прадстаўнікоў ня толькі беларускай, але і ўкраінскай нацыянальнай супольнасьці ў Польшчы. Так, вядомы ўкраінскі царкоўны і грамадзкі дзеяч, прафэсар Іван Агіенка ў сваёй рэцэнзіі на кнігу пісаў:

> Вядомы беларускі дзеяч, былы пасол Сойму кс. Адам Станкевіч у канцы 1929 г. надрукаваў вельмі цікавую кніжку [...] Загаловак не зусім адпавядае зьместу, бо ў працы кс. Станкевіча маем галоўным чынам наагул гісторыю беларускага царкоўнага руху ў Каталіцкім касьцёле. Кніжка напісана чалавекам, які перадумаў і душою перажыў усё тое, пра што апавядае, а таму чытаецца лёгка і зь цікавасьцю. Месцамі аўтар піша зь вялікім захапленьнем, з гарачым піэтызмам да справы, і таму робіць на чытача, асабліва такога, які разумее ў гэтай справе, моцнае ўражаньне[15].

[12] Сёньня гэты дакумэнт захоўваецца: Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Ф. 4. Воп. 1. Адз. зах. 34. А. 2—3.

[13] Станкевіч, А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. Вільня, 1934. С. 123.

[14] Stankiewicz, A. Rodnaja mowa ŭ światyniach. Wilnia, 1929. S. IV—V.

[15] Огієнко, І. Білоруська мова в Церкві // Богослужбова мова в слов'янських церквах. Збірка рецензій на нові видання. Варшава, 1931. С. 23—25.

Да моцных бакоў кнігі прафэсар Агіенка залічыў грунтоўны разбор ксяндзом Станкевічам нормаў кананічнага права ў справе ўжываньня жывых моваў у касьцёле, ацэнку і трактоўку падзеяў, зьвязаных зь ліквідацыяй уніі ў 1839 г. Разам з тым украінскі навуковец пакрытыкаваў некаторыя слабыя, на ягоную думку, моманты кнігі, найперш капіяваньне ксяндзом Адамам з польскай мовы касьцельнай тэрміналёгіі (напрыклад, словы „набажэнства“, „арцыбіскуп“, „ксёндз“). Цікава было б, заўважаў прафэсар, каб ксёндз паспрабаваў аднавіць такое гучаньне гэтых тэрмінаў, якое існавала ў беларусаў у тыя часы, калі беларуская мова найбольш шырока ўжывалася ў царкоўным жыцьці.

Заўважанай была прадстаўнікамі іншых народаў і кніга Адама Станкевіча „Беларускі хрысьціянскі рух“. Амаль на трохстах старонках кнігі ксёндз выклаў гісторыю фармаваньня хрысьціянска–дэмакратычнай плыні ў беларускім нацыянальна–вызвольным руху, выводзячы яе пачаткі ад прафэсараў–уніятаў Ігната Даніловіча, Ігната Анацэвіча, Міхала Баброўскага. Распавядаючы пра падзеі пачатку XX ст. — часы непасрэднага стварэньня Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, Станкевіч нярэдка згадвае і пра сваю асабістую ролю ў гэтых працэсах, шырока карыстаецца арыгінальнымі дакумэнтамі з уласнага архіву і асабістымі ўспамінамі.

Адной з найбольшых вартасьцяў кнігі было тое, што яна па–новаму адкрывала беларускую гісторыю ня толькі для беларусаў, але і для прадстаўнікоў іншых народаў. Асабліва цікавай у гэтым сэнсе яна магла быць для палякаў, бо беларускі нацыянальна–вызвольны рух прадстаўляўся ў кнізе не як „бальшавіцкая інтрыга“ (а менавіта так трактавала незалежніцкія памкненьні беларусаў значная частка нават дэмакратычнай польскай інтэлігенцыі), а як сьвядомае шматгадовае імкненьне да пабудовы свайго нацыянальнага дому, у якім удзельнічалі дзясяткі і нават сотні людзей духоўнага званьня. Знакаміты польскі каталіцкі дзеяч, рэдактар кракаўскага рэлігійнага часопісу *„Oriens“* ксёндз Ян Урбан адзначаў, што „Беларускі хрысьціянскі рух“ было б варта выдаць у перакладзе на польскую мову для польскай інтэлігенцыі, каб гэтым самым даць ёй магчымасьць па–новаму зірнуць на беларусаў.

Аднак час для пошукаў беларуска–польскага паразуменьня да гэтага часу (кніжка выйшла ў пачатку 1939 г., калі яе аўтар ужо быў высланы мясцовымі ўладамі зь Вільні ў Слонім з мэтай ізаляцыі ад галоўнага асяродку беларускага нацыянальнага руху ў Польшчы) быў незваротна страчаны. Калі асобныя прадстаўнікі польскай інтэлігенцыі часам яшчэ падавалі голас у абарону беларусаў, якія аказаліся чужынцамі на сваёй зямлі, то польскія дзяржаўныя чыноўнікі ў сваіх рапартах толькі з задавальненьнем канстатавалі, што беларускі нацыянальна–вызвольны рух, ня важна якога, левага ці хрысьціянска–дэмакратычнага накірунку, цалкам і канчаткова разгромлены, а таму беларускае пытаньне ў Польшчы фактычна зьнята з парадку дня.

Падзеі верасьня 1939 года прадэманстравалі, аднак, наколькі далёкімі ад рэчаіснасьці былі сьцьверджаньні, што беларусы ператварыліся ў абсалютна ляяльных грамадзянаў Польшчы. Далёка ня ўсе беларусы–заходнікі адразу пасьля прыходу Чырвонай арміі на населеныя імі землі аплаквалі канец Другой Рэчы Паспалітай, а многія зь іх з кветкамі віталі савецкія танкі і са зброяй у руках выганялі польскую паліцыю з заходнебеларускіх вёсак і мястэчак. Што тычыцца ксяндза А. Станкевіча, то ён сьцісла і дакладна сфармуляваў сваё стаўленьне да падзеяў верасьня 1939 г. у асабістым дзёньніку:

> Сяньня савецкі ўрад уручыў ноту польскаму паслу ў Маскве аб тым, што Чырвоная армія займае землі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У гэтым прадусім добра тое, што ўся Беларусь у адным месцы — пад Саветамі. Гэтак Польшча скончыла сваё над беларусамі панаваньне. Нічога дзіўнага — зрабіла ўсё, каб беларусаў ад сябе адпіхнуць[16].

[16] Станкевіч, А. Каляндарныя нататкі / Публікацыя і каментары М. Казлоўскага і С. Лескеця // Куфэрак Віленшчыны. 2004. №1 (9). С. 160.

Часы глябальнага гістарычнага катаклізму, у вір якога, пачынаючы зь верасьня 1939 г., воляй лёсу аказаўся ўцягнуты разам з усім беларускім народам і ксёндз Адам Станкевіч, былі мала спрыяльнымі для плённай творчай працы. Аднак жа ў пачатку 1940 г. у Вільні, на той час ужо літоўскай, выйшла чарговая кніга Станкевіча „Хрысьціянства і беларускі народ. Спроба сынтэзы“, напісаная ім яшчэ да пачатку Другой сусьветнай вайны. Думкі, выкладзеныя ксяндзом у гэтай кнізе, можна лічыць квінтэсэнцыяй філязофскіх поглядаў Адама Станкевіча на гісторыю беларускага народу.

Як вынікае з выкладзеных у працы палажэньняў, найважнейшым рухальным фактарам у гістарычным разьвіцьці беларускай нацыі ксёндз Станкевіч лічыў хрысьціянства, пры гэтым, што характэрна, не ягоную праваслаўную ці каталіцкую вэрсію, але менавіта хрысьціянства ў яго агульным, усеахопным, „усябытным“ сэнсе. Аўтар акцэнтуе асаблівую ўвагу на тым, што менавіта хрысьціянства прынесла беларусам культуру, пісьменнасьць, дапамагло ўмацаваньню дзяржаўнасьці і грамадзкага ладу. Падзел жа хрысьціянства на ўсходняе і заходняе ўспрымаецца Станкевічам як найвялікшая трагедыя беларусаў, якая замінае ім на шляху нацыятварэньня. Пераадоленьне гэтага падзелу, пошук хрысьціянскага і агульначалавечага яднаньня зьяўляецца асноўным зьместам нацыянальнай гісторыі. Неабходнасьць рэлігійнага аб'яднаньня на беларускіх землях існавала, паводле А. Станкевіча, заўсёды. Краіна, якая воляй лёсу апынулася на мяжы рымска–каталіцкай і праваслаўна–візантыйскай цывілізацыяў, на працягу стагодзьдзяў шукала і працягвае шукаць такую рэлігійную форму, якая б

> каб як найбольш была незалежнай ад чужых варожых уплываў, каб як найбольш была зьяднаная з народам і з патрэбамі душы ягонай, каб была ўрэшце ў пэўным значэньні больш–менш Царквой сапраўды беларускага народу[17].

Берасьцейская царкоўная унія 1596 г., паводле перакананьня Станкевіча, задумвалася і ажыцьцяўлялася як палітычная акцыя, і таму ад самага пачатку несла ў сабе элемэнт унутранага распаду. Аднак жа зь сярэдзіны XVII ст., ператварыўшыся фактычна толькі ў веру сялянства і дробнай шляхты, унія стала адыгрываць аб'ектыўна станоўчую ролю ў жыцьці беларусаў, бо ва ўмовах, калі беларускі народ «ня меў ніякай магчымасьці быць дзейным, разьвіваць далей сваю культуру, будаваць сваю грамадзкасьць і разьвівацца й жыць сваім уласным нацыянальным жыцьцём», уніяцкае духавенства было па–сутнасьці адзіным грамадзкім станам, які падтрымліваў кніжную беларускую культуру і мову. Таму ліквідацыя уніі, нягледзячы на тое, што тая ўсё ж такі ў цэлым працягвала заставацца «польскай служкай» і на працягу XVIII ст. пасьпела «бадай цалкам спольшчыцца», была сапраўднай народнай трагедыяй, бо такім чынам была зьнішчана апошняя, хаця і зусім нетрывалая форма, у якой беларусы 200 гадоў захоўвалі сваю самабытнасьць. І ў новых умовах імкненьне да уніі, ня столькі канкрэтнай, заснаванай на дамовах, а ідэальнай, заснаванай на ўзаемнай любові і пашане вернікаў, ксёндз А. Станкевіч лічыў прынцыпова важнай справай кожнага беларуса: „Шуканьне і тварэньне беларускай нацыянальнай і рэлігійнай сынтэзы — гэта наш беларускі абавязак, узложаны на нас гісторыяй і самым Богам“[18].

Станкевіч глыбока перажываў той факт, што большая частка сьвятароў двух асноўных хрысьціянскіх канфэсіяў — праваслаўя і каталіцтва, фактычна служаць у Беларусі інтарэсам іншых народаў, імкнучыся праз цэрквы і касьцёлы дэнацыяналізаваць сваю паству, схіліць яе сярод іншага да адмовы ад роднай мовы. Усьведамляючы, што такое становішча супярэчыць ня толькі інтарэсам беларускага народу, але і інтарэсам самога хрысьціян-

---

[17] Станкевіч, А. Хрысьціянства і беларускі народ. Спроба сынтэзы. Вільня, 1940. С. 92.
[18] Тамсама. С. 179.

ства, ён адкрыта выказваўся пра неабходнасьць увядзеньня ў практычную дзейнасьць усіх канфэсіяў на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку і Каталіцкага касьцёла, беларускай мовы, разумеючы, аднак, што гэтаму мусіць папярэднічаць значная падрыхтоўчая праца ў выглядзе перакладу на гэтую мову адмысловай літаратуры. Па меры ўласных магчымасьцяў ён імкнуўся спрычыніцца да выкананьня гэтай маштабнай задачы, вынікам чаго сталі творы ксяндза Адама выразна рэлігійнага зьместу, у першую чаргу „Божае Слова: лекцыі, Эванэліі і прамовы на нядзелі і сьвяты“, названыя ксяндзом Віктарам Шутовічам „дыямэнтам у беларускай рэлігійнай літаратуры“, якія „ў цяперашніх часах для беларусаў замяняе самую Біблію“[19]. Гэты буйны твор, а таксама некалькі больш дробных працаў перадусім рэлігійнага зьместу склалі ў нашым выданьні разьдзел „Касьцельная навука“.

У наступны разьдзел кнігі, які носіць назву „Грамадзка–палітычная думка“, уключаны некалькі твораў ксяндза А. Станкевіча, якія зьяўляюцца вынікам ягонай грамадзка–палітычнай дзейнасьці. Гэта хутчэй нават ня столькі творы, колькі дакумэнты эпохі, якія сьведчаць пра Станкевіча ў першую чаргу не як пра ідэоляга нацыянальнага руху — тэарэтыка, а як пра нацыянальнага палітычнага і рэлігійнага дзеяча — практыка. Характэрным дакумэнтам такога кшталту зьяўляюцца прамовы, сказаныя з парлямэнцкай трыбуны падчас выкананьня ксяндзом Станкевічам абавязкаў пасла (дэпутата) польскага Сойму ў 1922—1927 гг.

Станкевіч у Сойме быў дастаткова актыўным выступоўцам. Усяго за 5 гадоў свайго пасольства ён падымаўся на соймавую трыбуну на пленарных паседжаньнях 11 разоў (ня лічачы выступленьняў на паседжаньнях соймавых камісіяў). Такая ягоная актыўнасьць тлумачылася сярод іншага выдатным веданьнем ім дзяржаўнай польскай мовы, чым маглі пахваліцца далёка ня ўсе беларускія паслы, асабліва ў пачатку выкананьня імі сваіх паўнамоцтваў. Да таго ж ксёндз, як і належыць сьвятару, не палохаўся выступленьняў перад любой аўдыторыяй. Яму хапала таксама так неабходнай для любога парлямэнтара дасьціпнасьці і ўменьня імгненна рэагаваць на рэплікі апанентаў, ня кажучы ўжо пра разуменьне найбольш пякучых для беларускага грамадзтва праблемаў, якія ксёндз заўсёды сьмела і бескампрамісна ставіў падчас сваіх прамоваў. Няма сумневу, што Станкевіч быў бы абраны беларускім насельніцтвам і ў Сойм наступнага скліканьня (на чарговых парлямэнцкіх выбарах у сакавіку 1928 г. у Сьвянцянскай выбарчай акрузе, зь якой ён прайшоў у Сойм першы раз, беларусы здабылі ажно 3 пасольскія мандаты, зь якіх 2 прыпалі хрысьціянскім дэмакратам), але гэтаму перашкодзіў згаданы ўжо вышэй віленскі мітрапаліт Рамуальд Ялбжыкоўскі, які 12 красавіка 1927 г. сваёй уладай наагул забараніў ксяндзу Станкевічу займацца любой палітычнай дзейнасьцю. Пасьля гэтага Станкевіч фармальна актыўную палітыку пакінуў, але па–ранейшаму да самага канца існаваньня польскай міжваеннай дзяржаўнасьці неафіцыйна накіроўваў працу Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі (пасьля 1936 г. — Беларускага народнага аб’яднаньня), у тым ліку і палітычную.

Практычна абараняць правы беларускага народу ксёндз А. Станкевіч імкнуўся і пры іншых уладах, якія пасьля 1939 г. прыходзілі ў Заходняй Беларусі на зьмену польскай. У 1944 г., пасьля завяршэньня Другой сусьветнай вайны, пераважная большасьць заходнебеларускіх земляў зноў, ужо другі раз пасьля 1939 г., апынулася ў складзе СССР. Гэтая дзяржава вяла зацятую барацьбу ня толькі зь беларускай мовай у касьцёле ці царкве, як гэта было за часамі Польшчы, але з рэлігіяй увогуле, а прадстаўнікі такой катэгорыі грамадзтва, як сьвятары розных канфэсіяў, сталі ў ёй фактычна ізгоямі. Адам Станкевіч характар новай улады адразу ж адчуў на ўласным досьведзе — восеньню 1944 г. ён быў упершыню арыштаваны.

---

[19] Chryścijanskaja Dumka. 1938. 20 traŭnia. №15. S. 4.

Знаходзячыся ў турме, ксёндз Адам упершыню выступіў з прапановай да савецкіх уладаў аб стварэньні на тэрыторыі БССР асобнай каталіцкай дыяцэзіі, кананічна падпарадкаванай толькі Ватыкану. Сам факт вядзеньня перамоваў Станкевіча з бальшавікамі ў гэтай справе стаў вядомы ў 1991 г. пасьля публікацыі аднаго са скіраваных ксяндзом у той час савецкім уладам праектаў–мэмарандумаў у справе рэформы Каталіцкага касьцёла ў Беларусі[20]. Пра падрабязнасьці гэтых перамоваў крыху напісала ў сваіх надрукаваных у сярэдзіне 1990–х гг. успамінах вядомая беларуская дзячка Паўліна Мядзёлка, якая летам 1949 г. размаўляла з Марыяй Шутовіч, пакаёўкай ксяндза Адама:

> Марыя Шутовіч расказала мне, што савецкія ўлады абяцалі яму поўную недатыкальнасьць, абяцалі прабоства ў катэдральным касьцёле або ў Вострай браме, толькі з умовай, што ён ня будзе прызнаваць рымскага папу, а створыць новы народны касьцёл, незалежны ад Рыму. Кс. Адам ня мог прыняць такой умовы, бо гэта ўжо будзе ня Рыма–Каталіцкі касьцёл, а якісь іншы, і веруючыя каталікі не прызнаюць яго[21].

Тады гісторыкі не зьвярнулі на гэты кавалак Мядзёлчыных успамінаў асаблівай увагі, у чым, можна меркаваць, не апошнюю ролю адыграла супярэчлівасьць і неадназначнасьць асобы самой Мядзёлкі. Але, як аказалася, у дадзеным выпадку гэтая заслужаная дзячка казала чыстую праўду. Яе словы цалкам пацьвярджае ўнікальны дакумэнт — уласнаручныя каляндарныя запісы (фактычна дзёньнікі) ксяндза Станкевіча, якія рабіліся ім (праўда, нерэгулярна) у 1937—1948 гг. У гэтых сваіх запісах Станкевіч разгортвае перад чытачом шырокую панараму грамадзка–палітычнага жыцьця Заходняй Беларусі ў апошнія гады перад Другой сусьветнай вайной і адразу пасьля яе заканчэньня. Ксёндз не абмяжоўваўся асабіста ўбачаным і перажытым, але зьбіраў таксама інфармацыю ад тых людзей, зь якімі перакрыжоўваў яго лёс. А кантактаваў у той час Станкевіч з многімі вельмі цікавымі людзьмі. Ён згадвае, напрыклад, пра сустрэчы з такімі асобамі, як Люцыян Жалігоўскі, Рыгор Шырма, Віталь Вольскі, Максім Лужанін, Пімен Панчанка, Максім Танк, Валянцін Таўлай, Піліп Пестрак і інш.

Пасьля арышту аўтара каштоўны рукапіс не патрапіў у рукі ягоных сьледчых, бо быў схаваны адным з найбліжэйшых паплечнікаў ксяндза Адама Янкам Шутовічам, які ў 1970–х гг. перадрукаваў яго ў некалькіх асобніках на друкарцы. Пасьля гэтага на працягу больш чым 30 гадоў машынапіс захоўваўся ў прыватных асобаў ў Вільні. Толькі некалькі гадоў таму каляндарныя нататкі Адама Станкевіча намаганьнямі маладэчанскага краязнаўцы, выдаўца і рэдактара часопіса „Куфэрак Віленшчыны“ Міхася Казлоўскага былі нарэшце цалкам апублікаваныя (да гэтага вядомым быў толькі невялічкі іх фрагмэнт, які, цудам ацалелы, патрапіў на захаваньне ў аддзел рукапісаў акадэмічнай бібліятэкі ў Менску і быў у 1993 г. надрукаваны Вітаўтам Чаропкам[22]).

Сярод іншага А. Станкевіч у сваіх запісах апісвае каля дваццаці сустрэчаў з супрацоўнікамі органаў дзяржаўнай бясьпекі Літоўскай ССР, якія запрапанавалі яму выкласьці свае погляды на справу далейшага разьвіцьця каталіцтва ў Беларусі. Адгукнуўшыся на гэтую прапанову, у 1944—1947 гг. Станкевіч напісаў і падаў уладам некалькі праектаў рэформы Каталіцкага касьцёла ў Беларусі, якія былі ў свой час апублікаваныя

---

[20] Станкевіч, А. Каталіцкае пытанне і праект яго вырашэння: Да ведама Савецкага ўрада / Публ. Л. Этэнкі // Літаратура і мастацтва. 1991. 20 снежня. № 51. С. 14—15.

[21] Мядзёлка, П. Сцежкамі жыцця // Полымя. 1993. №5. С. 184.

[22] Станкевіч, А. Дзёньнікавыя запісы і лісты / Падрыхтоўка да друку В. Чаропкі // Хрысьціянская думка. 1993. № 1. С. 131—136.

Янінай Кісялёвай[23] , а цяпер перадрукоўваюцца на старонках гэтай кнігі. У сваіх праектах ксёндз Станкевіч даказваў, што Касьцёл даўно, прынамсі з XVI ст., быў сродкам палянізацыі беларусаў, таму неабходна падпарадкаваць беларусаў–каталікоў непасрэдна Рыму, бяз сувязі з Польшчай, і пачаць паступовую беларусізацыю каталіцкага жыцьця ў БССР. Такім чынам, паступова зьнішчылася б мяжа паміж беларусамі — каталікамі і праваслаўнымі, а ўлада задаволіла б рэлігійныя патрэбы грамадзянаў. Савецкія чыноўнікі ўспрынялі ідэю Станкевіча па–свойму. Ужо восеньню 1945 г. ён атрымаў прапанову ўзначаліць беларускі аўтакефальны „каталіцкі“ Касьцёл, які не прызнаваў бы Ватыкан і рымскага папу.

Перад ксяндзом Станкевічам адкрылася пэрспэктыва атрымаць магчымасьць для рэалізацыі калі ня ўсіх, то прынамсі некаторых сваіх ранейшых плянаў, аднак ён занадта добра ведаў гісторыю Каталіцкага касьцёла ў Беларусі, каб прыняць прапанаваныя бальшавікамі ўмовы. Няма сумневу, што ў думках ён ня раз прыгадваў ксяндза Фэрдынанда Сенчыкоўскага, які ў 1860–х гг. з падачы расейскага ўраду спрабаваў каталіцтва без узгадненьня з Апостальскай Сталіцай русіфікаваць і ў выніку дасягнуў толькі поўнай дыскрэдытацыі самой гэтай ідэі і яшчэ большага згуртаваньня каталіцкіх вернікаў вакол Каталіцкага касьцёла ў яго польскай вэрсіі. У той жа час Станкевіч ня мог забывацца і пра тое, што сапраўдны хрысьціянін мусіць па прыкладу самога Бога супрацьстаяць спакусе д’ябла (а што свайго контрагента на перамовах ён ўспрымаў менавіта гэтак, сьведчыць мянушка, пад якой фігуруе ў дзёньніках адказны за кантакты з ксяндзом супрацоўнік МДБ Літоўскай ССР — М–сто (Мэфістофэль)). Таму Станкевіч настойліва працягваў пераконваць супрацоўнікаў спэцслужбаў, што ў Беларусі вельмі патрэбен Каталіцкі касьцёл, выведзены з–пад уплыву польскіх ксяндзоў–нацыяналістаў, але гэты Касьцёл абавязкова мусіць быць кананічным, багаслаўлёным Ватыканам і яму падуладным. За амаль 4 гады перамоваў чэкістам так і не ўдалося схіліць ксяндза Станкевіча да саступкі ў гэтым прынцыповым для яго пытаньні. Пасьля чарговай катэгарычнай адмовы ўзначаліць аўтакефальны „каталіцкі“ Касьцёл у БССР ксёндз 13 красавіка 1949 г. быў ізноў арыштаваны. Больш у сваю кватэру на віленскім Зарэччы яму самастойна вярнуцца так і не ўдалося. Толькі часам, як згадвала П.Мядзёлка, яго прывозілі туды пад аховай — ксёндз Адам браў нейкія паперы, а затым яго ізноў везьлі на Лукішкі.

Далей ксяндза, якому савецкі суд у жніўні 1949 г. адмераў тэрмін зьняволеньня даўжынёй у 25 гадоў лягераў, чакалі этапныя дарогі ў далёкі сібірскі Тайшэт, якія канчаткова падарвалі і без таго ня волатаўскае здароўе. У выніку ўжо ў сьнежні 1949 г. ксёндз Адам Станкевіч адышоў у лепшы сьвет.

Такі трагічны канец жыцьцёвага шляху Адама Станкевіча быў, на жаль, даволі тыповым для прадстаўнікоў таго пакаленьня беларускіх адраджэнцаў, да якога ксёндз належаў. Але, зьнішчыўшы яго самога, ягоныя ворагі ўсё ж ня здолелі гэтым нанесьці сьмяротны ўдар справе ўсяго ягонага жыцьця. Ксёндз нават пасьля сваёй сьмерці працягваў закладаць падмурак пад будучае нацыянальнае адраджэньне беларускага народу, толькі ўжо не непасрэдна, а праз сваю друкаваную спадчыну. Нягледзячы на тое, што „Мэфістофэлі“ і іх духоўныя нашчадкі прадбачліва зачынілі яе ў спэцфондах архіваў і бібліятэк, беларускія гісторыкі і літаратуразнаўцы новага пакаленьня ў 1960—1970–х гг. усё ж такі часам натраплялі на гэтыя выданьні падчас вандровак па былой Заходняй Беларусі. Чытаючы іх, яны адкрывалі для сябе новую Беларусь, для таго каб пасьля, ужо сваімі ўласнымі працамі, адкрываць яе іншым. У выніку прарочымі аказаліся словы, напісаныя Станкевічам у 1935 г., тады, калі махавік бальшавіцкага тэрору яшчэ нават не раскруціўся на ўсю моц:

---

[23] Ксёндз Адам Станкевіч: праблемы каталіцтва ў Беларусі / Падрыхтоўка да друку і прадмова Я. Кісялёвай // Скарыніч. №5. Мінск, 2002. С. 161—190.

> Можна цьвердзіць напэўна, што маскоўскі камуністычны прасьлед нацыянальнага адраджэньня беларускага народу і яго волі да дзяржаўнай незалежнасьці можа гэтае адраджэньне і волю часова прыпыніць і нават скрывіць, але цалком здушыць ня зможа[24].

Здабытая беларусамі праз 42 гады пасьля пакутніцкай сьмерці аўтара вышэйцытаваных радкоў незалежнасьць і сапраўды атрымалася трохі скрыўленай. Сапраўднай жа яна можа стаць, паводле таго ж ксяндза Адама Станкевіча, толькі тады, калі

> народ наш праймецца наскрозь Ідэалам незалежнасьці, і як сьлед зразумее ўсю веліч і важнасць яго, і калі наступяць адпаведныя варункі[25].

Хочацца верыць, што такія варункі сапраўды некалі настануць, а выданьне гэтага збору асноўных твораў ксяндза–патрыёта нейкім чынам паспрыяе таму, каб беларускі народ праняўся Ідэалам незалежнасьці і як сьлед зразумеў яго веліч і важнасьць.

* * *

Усе тэксты, уключаныя ў дадзены збор твораў Адама Станкевіча, разьмеркаваныя па 5 разьдзелах. У першы зь іх, які мае назву „Беларусь самастойная“, уключаныя 12 навукова–папулярных працаў ксяндза на гістарычна–культурную тэматыку, большасьць зь якіх прысьвечаны разгляду жыцьця і дзейнасьці знакавых для беларускай гісторыі і культуры дзеячоў. Унутры разьдзелу тэксты сыстэматызаваныя адпаведна з храналёгіяй падзеяў, якія ў іх апісваюцца. Другі разьдзел, пад назвай „Беларусь хрысьціянская“, складаецца з чатырох працаў, прысьвечаных гісторыі хрысьціянства і хрысьціянскага руху ў Беларусі. Разьмежаваньне паміж працамі зь першага і другога разьдзелаў у пэўнай ступені ўмоўнае, бо ў многіх месцах яны паміж сабой пераклікаюцца. Трэці разьдзел „Касьцельная навука“ склалі працы, асноўнымі мэтамі напісаньня якіх была дапамога беларускаму каталіцкаму сьвятарству ў правядзеньні беларускамоўных дадатковых набажэнстваў, казаньняў і навукаў, а таксама нясеньне народу сьвятла Хрыстовае навукі на роднай мове. Чацьвёрты разьдзел кнігі, які носіць назву „Грамадзка–палітычная думка“, зьмяшчае прамовы Адама Станкевіча падчас выкананьня ім у 1922—1927 гг. абавязкаў пасла польскага Сойму, а таксама праекты па рэформе Каталіцкага касьцёла ў Беларусі, якія пісаліся ксяндзом Станкевічам у апошнія гады жыцьця з мэтай дамагчыся ад савецкіх уладаў стварэньня ў БССР своеасаблівай зоны рэлігійнай свабоды. Апошні, пяты разьдзел складаюць каляндарныя запісы, якія рабіліся А. Станкевічам з канца 1930–х да сярэдзіны 1948 г. Акрамя таго, да працаў, напісаных самім ксяндзом Адамам Станкевічам, далучаны дадатак — тэксты зь юбілейнага выданьня, выдадзенага ў Вільні 1940 г. у гонар 25–годзьдзя ягонай сьвятарскай дзейнасьці.

Большую частку сваіх прац ксёндз Адам Станкевіч у свой час напісаў і выдаў беларускай лацінкай. Для дадзенага выданьня тэксты ўсіх гэтых твораў былі трансьлітараваныя на кірылічны шрыфт. Аўтарскі правапіс у асноўным прыведзены ў адпаведнасьць з сучаснымі клясычнымі нормамі, у той час як лексічныя і стылёвыя асаблівасьці мовы аўтара ў большасьці выпадкаў захоўваліся. Цалкам захоўваўся арыгінальны правапіс у цытатах са скарынаўскіх кніг у працы „Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі. 1525—1925“ і з газэты „Мужыцкая праўда“ у працы „Кастусь Каліноўскі, „Мужыцкая праўда“ і ідэя незалежнасьці Беларусі“, а таксама ў

---

[24] Станкевіч, А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. Вільня, 1934. С. 10.
[25] Тамсама. С. 124.

тых фрагмэнтах іншых прац, дзе захаваньне правапісных асаблівасьцяў арыгіналу агаворвалася самім аўтарам.

Укладальнікамі і рэдактарамі выданьня быў цалкам мадыфікаваны, уніфікаваны і ўдакладнены спасылкавы апарат, а таксама бібліяграфічныя сьпісы, дадаваныя аўтарам да некаторых тэкстаў.

Пры падрыхтоўцы выданьня ягоныя укладальнікі і рэдактары карысталіся з рознага кшталту дапамогі сп.сп. Міхася Казлоўскага (Маладэчна), Уладзімера Конана (Менск), Уладзімера Ляхоўскага (Менск), Юрася Унуковіча (Менск), Андрэя Чарнякевіча (Горадня) Тацьцяны Казак (Горадня) і Алесі Бяленік (Горадня), за што ўсім гэтым людзям выказваецца шчырая падзяка.

*Андрэй Вашкевіч, Аляксандар Пашкевіч*